


# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (1128) ГОД XXII БЕЛАСТОК 9 КАСТРЫЧНІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.




*Асноўныя работы на палях Бельскага ПГР поўнасцю механізаваны.*

# СТО ВАГОНАЎ МЯСА

З нашай гаспадаркі даставім мы дзяржаве за некалькі гадоў 100 вагонаў мяса, — упэўнена сцвярджае дырэктар Казімеж Казлоўскі. Па прафесіі ён інжынер сельскагаспадарчай вытворчасці. Зараз кіруе дзяржаўнай сельскай гаспадаркай, асноўная сядзіба якой размясцілася ў цэнтры горада Бельска.

Зайшоў я да яго з прэтэнзіямі ад нашых чытачоў за абыякавасць да грамадскага дабра. То раз'езджана трактарамі дарога, то змарнаваны сілас...

Дырэктара не застаў. Нягледзячы на праліўны дождж, ён паехаў некуды на візітацыю аднаго са шматлікіх, падуладных яму сельскагаспадарчых аб'ектаў.

— Пачакайце, — заявіла сакратарша, — я зараз запытаю, ці няма яго на ферме ў Парцаве.

Яна ўключыла радыётэлефон — і тут жа адазвалася нейкая паненка з Парцава. Значыць, тэхніка... Відаць гэта ўжо ў дырэктарскім кабінеце.

— Інакш цяжка было б кіраваць такім сельскагаспадарчым гігантам, — крыху пазней паясніў мне Казімеж Казлоўскі. — Паглядзіце на карту нашых палёў.

Сапраўды, распоўзся гэты ПГР амаль ад Сямяціч да Заблудава і ад Цеханоўца да Гайнаўкі. На гэтай тэрыторыі да канца 1972 года гаспадарылі самастойна наступнымі ПГР-амі: Каменны Двор, Рудка, Пабікры, Вандалін, Дыдулі і Новае Беразова. Найлепшым з іх быў ПГР Каменны Двор. Гаспадарка задбаная, з добрымі традыцыямі.

Спецыялізаваўся ў садаводстве, і гэта давала яму даволі высокі штогадовы прыбытак.

Затое гаспадаркі ў Дыдулях і ў Новым Беразове, якія ўзніклі на аснове дзяржаўнага фонду зямлі, ніколі не змаглі развітацца з затратамі. Рудка, Пабікры і Вандалін таксама не мелі высокіх прыбыткаў. Усе яны разам у 1970 годзе „дапрацаваліся" да 2 мільёнаў затрат.

З такім „пасагам" пад канец 1972 года распачаў сваю вытворчую біяграфію аб'яднаны ПГР у Бельску. ПГР гэты пераняў усе дзяржаўныя сельскагаспадарчыя аб'екты, якія існавалі ў наваколлі Бельска і Гайнаўкі — уключна з абавязкам загаспадарвання ўсіх дзялянак дзяржаўнага фонду зямлі, які пастаянна ў гэтых раёнах накапляецца.

— Цяпер, — заяўляе дырэктар, — прадаем мы ў год: амаль 2 тысячы тон мяса і 1 мільён літраў малака, а на дабавак яшчэ 800 тысяч штук яек і 18-20 тон рыбы. Наш чысты прыбытак за 1976 год склаў 48 мільёнаў 800 тысяч злотых.

Цуд? Не, у эканоміцы, а тым болей у сельскагаспадарчай вытворчасці ніякіх цудаў не бывае. Уся тайна поспехаў зводзіцца да арганізацыі працы.

— Перш за ўсё, — паясняе дырэктар, — распачалі мы сваю дзейнасць ад апрацоўкі перспектыўных планаў спецыялізацыі для паасобных вытворчых звенняў, якія саставілі нашае сельскагаспадарчае аб'яднанне.

Каменны Двор, для прыкладу, надалей будзе займацца садаводствам. Ужо цяпер там 150 га зямлі пад фруктовымі дрэвамі. Неўзабаве будзе 220-230 га. У 1980 годзе з гэтай гаспадаркі прададуць звыш 2 тысяч тон яблык, а мэта — 5-6 тысяч тон у год.

Рудка — ялоўкі і малочныя каровы. Таксама і ў Парцаве. Пабікры — гэта ўжо ў Ломжынскім ваяводстве — свінаферма, з улікам гадоўлі свінаматак. Гацькі і Райск — адкорм свіней. Таксама і ў Вульцы Выганоўскай. У Дыдулях — мясная ялавічына. Новае Бера-

**(Працяг на стар. 4)**

Маёра Віктара Жураўскага я ўжо не раз сустракаў на розных урачыстасцях ЗБоВіД у Беластоку, але не ведаў, што ён такі заслужаны салдат. У ліпені выпадкова давялося мне пабываць у Чорнай Беластоцкай і пры гэтай нагодзе крыху пагаварыць з героем майго артыкула.

Віктар Жураўскі нарадзіўся ў 1901 годзе ў сям'і беднага селяніна каля Радама. Яшчэ зусім малым дзіцём, супольна з сям'ёй апынуўся ў Магілёўскай губерні, дзе хадзіў у школу. У 1920 годзе 19-гадовы хлапец паступіў у рады Чырвонай Арміі. Ваяваў супроць ворагаў маладой савецкай улады. Пасля накіравалі яго ў афіцэрскую школу ў Ленінград. Школу скончыў ў 1924 г. У




званні малодшага лейтэнанта аб'язджаў дзікіх коней на патрэбы арміі. У 1929 годзе кіруюць яго ў сёмую Кавалерыйскую дывізію і пасылаюць на Далёкі Усход ваяваць супраць контррэвалюцыі. У 1930 годзе пасылаюць у школу артылерыстаў. Зноў Ленінград. Праз тры гады вучобы Жураўскі атрымлівае званне ваеннага тэхніка I класа і едзе ў Ашхабад служыць у пагранічных войсках на пасадзе старшага інспектара баявой падрыхтоўкі. У Туркменіі быў да моманту вайны з Фінляндыяй.

— Гэта была асабліва цяжкая вайна, — успамінае маёр, — таму, што белафіны былі надта добра да яе падрыхтаваны. Аднак вайна з гітлераўскім фашызмам пабіла рэкорды ўсіх войн, якія свет ведае.

У час нападзення гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз маёр Жураў-

*Працяг на стар. 4*



*Віктар Жураўскі.*

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Настаўніца, маці, дзеяч ● Вада з крана для вёскі ● Для вас, музыканты! (новы конкурс) ● Узаемасувязі братніх літаратур ● Чары перад вяселлем ● Дзядзька Максім успамінае ● Не стала на рамонт ● Не дагадзіў жонцы ● Весткі з Гарадка, Кнаразоў, Чаромхі, Гайнаўкі, Белавежы, Беластока, Супраслі, Бельска ● Курс на той свет (новая аповесць у адрэзках) ● Модныя сумкі ● Песня „Melodia miłości".**

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БАБРОЎНІКІ

Трапіць у іх няцяжка: едучы па шашы з Саколкі ў Крынкі, праязджаеце вы ў якіх пяці кіламетрах праз вёску Каменку, у ёй паварочваеце налева і вось у 2-3 кіламетрах перад вамі гэтая мясцовасць з яе 42 гаспадаркамі, палеткамі **Далы, Дзягцяр, Маргіе, Пад Каменкаю** ды старымі родамі яе насельнікаў **Баранамі, Матукамі і Пашкамі**, а таксама тымі, што пасяліліся тут пазней: **Казлоўскім, Рэдзькам, Таудулем, Упучкам** і іншымі.

Пачаткі Бtypeброўнікаў крыюцца ў глыбокім мінулым, недзе ў XV стагоддзі, калі ў аграмаднай *Гродзенскай пушчы*, што прасціралася тады ад Коўна на поўначы і да ракі Супраслі на поўдні, ад ракі Нёман на ўсходзе і да Райграда на захадзе, пачалі спачатку часова, а потым і стала пасяляцца *асочнікі, касары, бортнікі, баброўнікі*, якія паходзілі з ваколіц Гродна. Вялікія князі літоўскія марнатраўнаю рукой раздавалі гэты аграмадны абшар сваім прыбліжаным Радзівілам, Бауфалам, Валовічам, Кундам, Галецкім і іншым, але адначасова дзе-нідзе засноўвалі свае „гаспадарскія" двары, між іншым, Малявічы і Сакалду. Пры гэтых дварах паўставалі таксама паселішчы вялікакняжацкіх падданых, абавязкам якіх было даглядаць пушчу і звярыну ў ёй. Баброўнікі і былі такім паселішчам аднаго ці двух сялян, пры двары ў Сакалдзе, яны сачылі за бабровымі жарэм'ямі на Ласоснай, Сакалдзе, Каменнай і іншых рэчках. У палавіне XVI стагоддзя ў выніку г.зв. *валочнай памеры* (1557 г.) з жыхароў Баброўнікаў былі знесены іх ранейшыя абавязкі па догляду бброў, яны атрымалі 10 валокаў зямлі і на іх былі ўскладзены такія самыя абавязкі, якія неслі ўсе вялікакняжацкія прыгонныя сяляне. Пры валочнай памеры абавязкам землямераў было „наразаць" валокі так, каб кожная з іх мела чатырохвугольную форму і падзялялася на тры роўныя часткі, каб можна было ўвесці надта ж прагрэсіўнае ў тыя часы *трохпольнае* гаспадаранне. Калі „рэзаць" так не ўдавалася, землямеры дзялілі зямлю на т. зв. „марговыя валокі", якія былі розныя па форме і не мелі трох роўных палеткаў. У Баброўніках былі якраз „марговыя валокі", след па якіх і захаваўся да нашых часоў у назве палетка „Маргіе". А што гэтая вёска мела нейкае дачыненне да вялікакняжацкага двара ў Сакалдзе, побач якога пазней вырасла сённяшняя Саколка, сведчыць якраз тое, што сенажаці яна атрымала на рацэ Сакалдзе каля Саколкі.

Калі мы ўжо неяк акрэслілі адлеглыя пачаткі Баброўнікаў, загляньма цяпер у менш даўнія, але зусім не менш, калі не больш змрочныя часы.

— Пытаецеся, як калісьці людзі жылі? — Дзевяностагадовая **Людвіка Матук** задумваецца і пахмурнее. — Мучы-

**(Працяг на стар. 4)**

# Свята ўраджаю



У нараўскіх дажынках прынялі таксама ўдзел прадстаўнікі ваяводскіх улад: сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Станіслаў Зялінскі, старшыня ВК ЗСЛ Ежы Гжыбчак і віцэ-ваявода Станіслаў Топур.

**Цяжкае і працавітае лета нашы сяляне па старадаўняму звычаю закончылі святкаваннем дажынак. Адбыліся яны ва ўсіх гмінах. Нас запрасілі ў Нарву, дзе галоўным арганізатарам сёлетняга свята ўраджаю быў спулдзельчы сельскагаспадарчы камбінат.**



*Хлеб-соль — сімвал сёлетняга ўраджаю — ад імя спулдзельцаў, прадстаўніком якіх з'яўляліся Лідзія Ляшчынская з Макаўкі, і ад імя сялян-аднаасобнікаў, якіх прадстаўляў Мікалай Петручук з Трасцянкі, прыпаднеслі гаспадару нараўскіх дажынак, сакратару гміннага камітэта партыі ў Нарве Міхалу Зубрыцкаму.*



*Калі распачалася мастацкая частка, удзельнікі дажынак асабліва сардэчна сустрэлі самадзейнікаў з Ласінкі, якімі апякуецца Сцяпан Паскробка. Яны спявалі народныя беларускія песні, якія спрадвеку захаваліся ў іх роднай вёсцы.*



*Галоўны дажынкавы вянок неслі спулдзельцы з Нарвы. У 1975 годзе ўсе спулдзельні прадукцыйныя ў гэтай гміне аб'ядналіся і стварылі адзін сельскагаспадарчы камбінат, які зараз дае дзяржаве 43 працэнты ўсёй сельскагаспадарчай таварнай прадукцыі Нараўскай гміны, хаця апрацоўвае толькі 18 працэнтаў зямельных угоддзяў. Асабліва вялікія намаганні кладуць нараўскія спулдзельцы на развіццё жывёлагадоўлі.*



*Сяляне мелі магчымасць пазнаёміцца з сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай.*

**Тэкст і фота В. Рудчыка**

## Ад родных ніў

### ВОСЕНЬ

*Скрозь прастор на пустым полі,*
*Цягне халадком,*
*Бульба светлая ў разоры*
*Сцелецца радком.*
*Ўжо лугі адзялянелі,*
*Смуціцца рака,*
*Салаўі даўно адпелі,*
*Не чуць жаўрука.*
*Вакруг белыя бярозкі*
*Лісцем залацят,*
*Жураўлі, як дзве дарожкі,*
*Высока ляцят.*
*Там з таполяй вецер б'ецца,*
*Хіліт і трасе,*
*І бессільно лісце рвецца,*
*Па палях нясе.*
*Шумам колкім лес зліваe,*
*Не хапае слоў.*
*Просто сэрцо заміpae,*
*Дзе бы не зайшоў.*
*Ўсё галее, раздзяецца,*
*Туліцца да сну.*
*Зямля радасна прачнецца*
*Прывітаць вясну.*
*Ціха дрэмле вёска ў долі,*
*Яно цёпла ў хаць,*
*Людзі змучацца на полі,*
*Будут спачываць.*

**А. Леўшук**
Циванюкі

## У васількоўскай бібліятэцы

Бібліятэка горада і гміны Васількова знаходзіцца ў прасторным мураваным будынку. Ён розніцца ад усіх іншых. Усім у вока кідаецца яго сучасны выгляд. У бібліятэцы 16 тысяч кніжак для дзяцей і дарослых, поўнае бібліятэчнае абсталяванне, нават каляровы тэлевізар і яшчэ тэлефон (гэта ўжо асабліва вялікая выгада). Бібліятэкай карыстаецца больш 1400 чытачоў. Звыш сямісот наведвальнікаў маюць філіял гэтай мейска-гміннай бібліятэкі ў Студзянках і дзевяць бібліятэчных пунктаў. У васількоўскай бібліятэцы працуюць Барбара Сабалеўская (кіраўнічка, семнаццаты год працы) і Марыя Браслаўская (шосты год). Барбара Сабалеўская няраз ўзнагароджвалася за свае поспехі ў працы. Яна сама высока цэніць працу бібліятэчных пунктаў у Варашылах (кіруе ім Марыя Брулінская) і ў Сахонях (вядзе яго Марыя Вярцінская).

У васількоўскай бібліятэцы добрая атмасфера. Сюды ахвотна заходзяць школьнікі, якія паглыбляюць свае веды, выкарыстоўваючы падручны кнігазбор. Знайсці тут можна кнігі на розныя тэмы, энцыклапедыі, слоўнікі і г.д. Да таго кожны год у бібліятэку прыбывае каля тысячы новых кніг.

Кіраўнічка бібліятэкі арганізуе многа сустрэч з пісьменнікамі і журналістамі, дэкламатарскія конкурсы, кніжныя латарэі і кірмашы. У гэтыя мерапрыемствы ахвотна ўключаецца і школьная бібліятэкарша Галіна Радзішэўская.

Яшчэ пра найбольш пастаянных васількоўскіх чытачоў. Да іх належаць: Антаніна Сідаровіч, Юльян Замойскі, Расціслаў Гурскі і іншыя. Найчасцейшы тут госць — моладзь.

Барбара Сабалеўская гаворыць, што хаця зараз маладыя людзі працуюць, глядзяць тэлеперадачы, ходзяць на танцы і ўсё гэта займае шмат часу, але знаходзяць і вольны час на прачытанне кніжкі. Усё гэта дзеля таго, каб пашыраць гарызонты сваіх ведаў, разумець розныя з'явы нашага сучаснага жыцця. Вядома ж, што пасля прачытання добрай кнігі нешта астаецца ў чалавека...

Доўга вечарамі свецяцца вокны ў васількоўскай бібліятэцы. Тут збіраюцца людзі, якія імкнуцца паглыбляць свае веды і хочуць лепш пазнаёміцца з акружаючым жыццём. Усе яны верныя сябры добрай кніжкі.

**Я. Ц.**

## Гутарка дзядзькі Максіма

### Людзі і... вошы

Жывуць на гэтым свеце людзі, аднак здараюцца і... вошы. Людзі здаўна імкнуцца, каб ім ды ўсім іншым іх пабратымцам жылося ўсё лепш, выгадней, каб заўсёды ствараць штосьці новае, карыснае. А вошы? Як вошы...

Выбачайце, даражэнькія, мне, старому, гэтую філасофію. Аднак... адна вош вясковая нервы мне зусім... разумееце... учора на сходзе...

Сакратар нашай партыйнай арганізацыі супольна з солтысам запрапанавалі, каб прыдумаць нейкі грамадскі чын.

— Вады нам трэба! — сказаў я. — Святло маем, краму маем, рамізу маем, школу маем, святліцу маем, а вось вады, вядома, з водаправода, каб і ў хаце і ў хлявах для жывіны...

І тут... гэтая вош выскачыла з барады. Цімохам яе завуць у нас.

— А хто будзе плаціць за гэты водаправод? — запішчаў ён. — Ці вы сабе ўяўляеце, колькі каштуе такая інвестыцыя? За электрыфікацыю плаці, за меліярацыю плаці, а тут знайшоўся яшчэ такі разумны, што вады яму захацелася! У мяне на панадворку свой уласны калодзеж. Служыў майму бацьку і мне яго яшчэ хопіць...

Настала маўчанне. Доўгае, зацяжное. Дарэмна сакратар разам з солтысам заахвочвалі ўсіх прысутных да дыскусіі, дарэмна хвалілі маю прапанову, што яна добрая, што гміна нам дапаможа...

Людзі маўчалі, а паціху ў думках кожны пералічваў, колькі грошай спатрэбіцца на гэты водаправод. Я зразумеў, што на гэты раз адна паршывая вош запаскудзіла ўсю добрую справу. Сплюнуў са злосці і паплёўся дамоў. Палашка ўжо спала. На стале стаяла халодная вячэра. Пасёрбаў я крыху капусты, перакусіў адубянелай бульбай і сам таксама залез у пасцель. Спаць аднак не хацелася. Устаў, уключыў тэлевізар, каб неяк крыху супакоіцца. Гаварылі аб палітыцы, аб пленарным па-

(Працяг на стар. 5)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ЖНІЎНАЯ*




*Ой, ішлі хмаранькі да грамаданькі,*
*а вы, зоранькі, розно.*
*Ой, не сварысе, моя матулю,*
*што я іду з карчмы позно.*

*Ой, чы сварысе, чы не сварысе,*
*то я вас ні баюсь:*
*хто мне даў праву ручэньку,*
*то з тым я й ажанюсь.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА III

Апрача псеўдаміма „Бядуля“ ўжываў пісьменнік таксама псеўданім „Ясакар“. Асабліва першы псеўданім меў акрэсленае грамадскае гучанне. Такім чынам пісьменнік далучаўся да тыповай для нашаніўскіх аўтараў з'явы. Імкнуўся да таго, каб у псеўдоніме праяўляліся канкрэтныя грамадскія і палітычныя ідэі. Зразумела, што псеўдонім „Бядуля“ паходзіў ад слова — бяда. Такім чынам стараўся ён падкрэсліць сваё кроўнае адзінства з беларускай нядоляй. Нягледзячы на тое, што Бядуля выводзіўся з мяшчанства, амаль усю сваю творчасць прысвяціў ён сялянскаму побыту. Няма сумненняў, што малады пісьменнік свядома далучыўся да такіх нашаніўскіх пісьменнікаў, як Якуб Колас і Янка Купала. Хаця трэба сказаць, што ў самым творчым метадзе Бядулі, у яго стылістыцы не мала ёсць рыс, якія набліжаюць яго творчасць да тых аўтараў, якія звярталі асаблівую ўвагу на эстэтычны бок творчасці. Якраз у гэтым сэнсе можам гаварыць аб супольных рысах у творчасці Бядулі і Багдановіча.

Непасрэдны літаратурны кантакт Бядулі з „Нашай нівай“ быў устаноўлены ў 1910 годзе. Змясціў ён у тыднёвіку некалькі карэспандэнцый і лірычную імпрэсію „Пяюць начлежнікі“. Рэдакцыя заахвочвала маладога аўтара пісаць карэспандэнцыі, хвалячы іх факталагічныя і фармальныя вартасці. Пры гэтым рэдакцыя досыць непрыхільна ставілася да яго вершаў. Такі стан рэчаў выразна не задавальняў пачынаючага літаратара. Бядуля шукаў прызнання не як карэспандэнт, але як паэт і таму ў шматлікіх лістах, якія высылаў у „Нашу ніву“, заўсёды пытаў пра лёс сваіх вершаў. Намаганні аўтара ўрэшце закончыліся станоўчым вынікам. У 1911 годзе быў апублікаваны першы верш Бядулі „Мой спеў“. З гэтага часу паэтычныя і празаічныя творы стануць частымі госцьмі на старонках „Нашай нівы“. Літаратурныя поспехі радыкальна мяняюць характар жыцця Бядулі. У 1912 годзе пакідае ён Пасадзец і едзе ў Вільню. Мэта выезду мае выразна акрэслены характар. Бядуля не толькі літаратурна, але і практычна намерваецца звязацца з беларускім нацыянальным рухам. З часам выдаўцы „Нашай нівы“ давяраюць яму адказную функцыю — сакратара рэдакцыі. Зразумела, што функцыя гэта спрыяла друку яго твораў у часопісе. Няма аднак сумненняў у тым, што Бядуля не злоўжываў уладай. Горача адданы беларускаму нацыянальнаму і культурнаму руху, дбаў пра тое, каб усё, што прадстаўляла сур'ёзную літаратурную вартасць, было змешчана на старонках „Нашай нівы“. Праца ў рэдакцыі не толькі спыніла, але нават стымулявала літаратурную працу Бядулі. У хуткім часе становіцца ён адным з найбольш актыўных нашаніўскіх аўтараў.

У 1913 годзе Беларуская выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ выдала першы зборнік Бядулі „Абразкі“. Даследчык Смолкін сцвярджае, што Бядуля назваў свой зборнік „Плач пралескаў“, але Купала прыйшоў да вываду, што лепш будзе даць яму загаловак „Абразкі“. У зборнік увайшла лірычная проза. Былі гэта галоўным чынам імпрэсіі і эцюды. Сведчылі яны аб выключна паэтычным, эмацыянальна-ўзрушаным светаадчуванні аўтара.

Некаторыя з тагачасных беларускіх нашаніўскіх пісьменнікаў паспяхова займаліся лірычнай прозай, аднак трэба сказаць, што Бядуля ў гэтай галіне сказаў сваё арыгінальнае слова.

50 грошай ладышка. Во якое жыццё было, добра, паночку, што яно прапала!

А сёння? Ці варта прыгадваць тое, што Груд даўным-даўно меліяраваны і дае з году ў год па тры пакосы мурожнага з „дзецялінаю“ сена, людзі ўжо забыліся, калі жалі сярпамі, з касою цяпер таксама рэдка ўжо выходзяць на сенажаць ці ў поле, хіба што абкасіць равы ці краі палетка. Бабраўчане гадуюць многа свіней і малочнага быдла, некаторыя, як Э. Бараноўскі, займаюцца гадоўляй коней. Ураджаі на палях за апошнія трыццаць год павялічыліся ўдвая. Растуць даходы сялян. А грош яны трацяць разумна і эканомна: на пабудову вялікіх сучасных хлявоў, двухпавярховых мураваных дамоў, каштоўную мэблю і іншае хатняе абсталяванне і, перш за ўсё, на сельскагаспадарчыя машыны. Цяпер у Баброўніках аж восем сялян маюць уласныя трактары з камплектам машын да іх. Гэты лік самы красамоўны паказчык сённяшняга жыцця ў Баброўніках.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Адзін з домікаў у Баброўніках.*

МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Іван Русіловіч

Хата Івана Русіловіча, што жыве ў Зверках (Заблудаўская гміна), адрозніваецца ад іншых хат у вёсцы тым, што шчытавая сцяна не простая, ад палавіны яе ёсць трохбаковы выступ, які робіць выгляд невялікага закруглення, а ў гэтым закругленні знаходзіцца акно з трох частак і кожнае з іх знаходзіцца ў гэтых паасобных сценках. А зноў шчытавое акно зверху вялікае, мала меншае ад хатніх вокан. Будынак гэты Іван Русіловіч сваімі рукамі збудаваў. Сам рабіў дах, вокны, дзверы, сам укладваў падлогу і нават сам збудаваў печ і печкі, вылажаныя роўненька белаю кафляю.

Чалавек гэты не закончыў нават падставовай школы, а здольнасці самароднай умеласці ў яго не менш, як у тэхніка, а мо нават некаторага інжынера-будаўніка. Збудаваў ён многа будынкаў, але найбольш драўляных дамоў. Будаваў на вёсцы, будаваў таксама шмат драўляных хат і ў Беластоку. Да сёння многія стаяць, а некаторыя ўжо пайшлі пад ліквідацыю, паколькі цяпер абавязвае будаўніцтва толькі мураванае. Да найбольш складаных будоўляў залічае ён сам званіцу ў Заблудаўскай царкве, якая была вайною разбіта.

Ды Іван Русіловіч будуе інакш, як усе такога роду рамеснікі. Ён мусіць зрабіць рысунак, мусіць усё па-свойму адмерыць. Зруб хаты ў яго адразу не будуецца. Зруб хаты падрыхтоўваецца на панадворку. Тут усё дапасоўвае, тут усё мерыць і пілуе. А калі ўсё гатова, тады на працягу аднаго або двух дзён Русіловіч зложыць зруб і дах.

Чалавек гэты адораны вялікімі здольнасцямі. Калі трэба было, рабіў ён калёсы, кляшчы да хамутоў, дугі, бочкі, лавы, услоны, круглыя сталы, падстаўкі і іншае хатняе абсталяванне.

Ён умее належна зрабіць фундамент, з заліваннем лаваў і „збраеннем“. Ён таксама абазнаны з бляхарскімі работамі. Умее пакрыць будынак бляхаю, зрабіць рыны, умее таксама змураваць будынак.

Адным словам, ён стальмах, і бондар, і столяр, і цясляр, і здун, і бляхар. Ды апрача таго, нядрэнны гаспадар. Мае тры дойныя каровы, ад якіх нават па 50 літраў у дзень прадаваў малака. Праўда, гаспадарскімі работамі найбольш займаецца жонка, бо ўся жывёлагадоўля (каровы, свінні, куры) у асноўным ляжыць на яе плячах. Сыны пайшлі ў Беласток. Уладзіслаў — інжынер-будаўнік, а Яўген, закончыўшы механічны тэхнікум, таксама працуе ў Беластоку. Ён часта прыязджае і дапамагае пастарэўшым бацькам гаспадарыць.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



## КОНКУРС „300“

У кастрычніку, як і ў папярэдніх гадах, ПКО арганізуе папулярны конкурс **„300“**. Хто з уласнікаў ашчадных кніжак ПКО задэкларуе, што на працягу **трох** або **шасці** месяцаў не возьме з ашчаднай кніжкі акрэсленую суму грошай, напрыклад 300, 600, 900 і т.д. злотых, той прыме ўдзел у розыгрышах каштоўных узнагарод, агульная сума якіх **складае 8 мільёнаў злотых.** Шчаслівых удзельнікаў конкурсу чакае 40 аўтамабіляў „Ф'ят-126“ і шмат іншых каштоўных узнагарод.

Дакладнейшыя інфармацыі зацікаўленыя знойдуць ва ўсіх пляцоўках ПКО і на пошце. **(вр)**

(Працяг са стар. 3)

## ЛЮДЗІ І... ВОШЫ

сяджэнні Цэнтральнага Камітэта партыі. Нейкі лысавы, але, відаць, разумны пан прыводзіў прыклады добрай і дрэннай работы. Добрае, гаварыў ён, узбагачае грамадства, а дрэннае, вядома, толькі шкодзіць яму...

Вось тады я і падумаў пра тое, што жывуць на нашым свеце людзі, аднак здараюцца і... вошы.

І пачалі ў маёй памяці ўзнікаць розныя ўспаміны пра ўсё добрае і дрэннае, што на працягу апошніх дзесяткаў гадоў здарылася ў нашай вёсцы. Найперш, яшчэ пры савецкай уладзе, распачалі мы пабудову вясковай школы. Драўляную, але прасторную, якая і дагэтуль яшчэ служыць нашым унукам. Праўда, будавалі мы яе даволі доўга, бо з перапынкам на акупацыю, а пасля вызвалення шмат часу палохалі нас лясныя банды...

Пасля спатрэбілася нам свая крама. Найперш невялічкая, драўляная, а затым болей прасторная, мураваная. Урэшце прыйшла чарга на святліцу, на вясковы клуб...

І цяпер усё гэта ёсць, служыць нам усім. Нават ужо добра не памятаю, колькі давялося нам напрацавацца, каб усё гэта было. То ж і тады здараліся такія ж вошы, што толькі па чужых барадах хаваліся. Мог бы іх па імяні называць, мог бы іх жыццё незавіднае апісаць... Але ці варта? Не яны ж вырашаюць аб тым, што нам усё лепш жывецца. І водаправод у нашай вёсцы напэўна будзе...

З гэтай думкай я і заснуў. А ноччу прысніласяя мне, што ва ўсіх кутках маёй хаты тырчаць велізарныя краны, з якіх безупынку цячэ вада. Было мне неяк лёгка, прыемна і весела на душы. Што б гэта магло значыць? Можа Астрон нам разгадае?

**Максім Нурэцкі**

## DANIEL

### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:**

Галена Грыгарук з Галадоў, Багуся Гарадкевіч з Мастаўлян, Рэгіна Пшэпюрксўская з Бельска, Хрысціна Ігнацюк з Пухлоў, Люцына Базылюк, Ольга Карчэўская з Клейнік, Люся і Малгося, Аля Васілюк з Курашава.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля разводу былыя муж і жонка падзялілі маёмасць. У выніку падзелу мужу была прызнана судом кааператыўная кватэра. Звыш года перад падзелам маёмасці кватэру займала толькі жонка, бо муж, каб унікнуць звад, жыў кутом у свайго знаёмага. За цэлы гэты час жонка не плаціла кватэрнай платы, а кватэру займала яшчэ тры месяцы пасля падзелу маёмасці судом. Ці можа муж патрабаваць ад жонкі звароту кватэрнай платы, якую ён змушаны быў урэгуляваць за час, калі кватэру займала толькі жонка?

АДКАЗ: За час да разводу ніякія разлічэнні паміж мужам і жонкай адносна кватэрнай платы недапушчальны. Пасля разводу і да часу падзелу маёмасці муж меў права патрабаваць разлічэння за карыстанне жонкай з кватэры, якая была іх супольнай маёмасцю, а асабліва звароту кватэрнай платы. Гэтае патрабаванне павінен ён быў заявіць у судзе ў часе судавядзення адносна падзелу супольнай маёмасці. Закон забараняе выступаць з патрабаваннямі, якія ўзніклі ў выніку карыстання з супольнай маёмасці пасля ўваходу ў законную сілу рашэння аб падзеле супольнай маёмасці. З гэтага вынікае, што разведзены муж можа патрабаваць ад былой жонкі толькі звароту кватэрнай платы за час ад даты рашэння аб падзеле маёмасці, у нашым прыкладзе за тры месяцы.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне сон, які складаецца з дзвюх частак. У суботу былі танцы ў суседняй вёсцы. Мама мяне не пусціла, хаця ў мяне была мая найлепшая сяброўка. Калі прыехала другая сяброўка — мама згадзілася, і мы роварамі паехалі. Мяне вёз хтосьці з сяброваk. Але мы не даехалі, таму што тут якраз распачалася другая частка сну.

Ідзем мы з сяброўкамі па вуліцы суседняй вёскі і размаўляем. Вось тая ж самая, найлепшая сяброўка гаворыць, што бачыла ўчора на станцыі майго хлопца з другой дзяўчынай. Я прабавала гадаць, хто гэта, але ўсё-такі мы не дайшлі, хто гэта. У сне я не бачыла ні гэтай дзяўчыны, ні Юрка. Але вельмі я гэта перажывала. Мы так ідзем, а насустрач выходзіць мая мама з пучкамі тонкіх лоз. Потым вядзе нас у суседаў садок, дзе стаіць драўляны дом, а каля яго ляжаць дошкі. На дошках — прыгожыя яблыкі. Тут я прачнулася. Астроне! Напішы, што гэты сон абазначае. Мне здаецца, што гэта нядобры сон!

Данка

**Данка!** Наогул ты не памыляешся. Сніцца табе тое, аб чым ты думаеш. Але, відаць, ты маладая, і думкі твае найчасцей вакол хлопцаў круцяцца. Баішся за свайго хлопца і зайздросная. Тое, што сказала табе сяброўка аб тваім хлопцу, можа аднак аказацца праўдай. Пацвярджаюць гэта яблыкі, якія, хаця і былі прыгожыя і здаровыя, то не прадвяшчаюць нічога добрага: або сварку, або няўдачнае супружаства. Яблыка заўсёды бывае сімвалам нейкага раздору.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Стравы з кукурузы

У адным з апошніх нумароў мы паінфармавалі нашых чытачоў, як можна рацыянальна выкарыстоўваць у добрай кухні кукурузу, стравы з якой шырока распаўсюджаны на свеце. Сёння падаем два рэцэпты:

### АЛАДКІ

На 250 г грысіку (крупы з кукурузы) трэба ўзяць паўлітра малака, паўлітра вады, крыху солі, тлушч і крыху цукровай пудры.

Закіпяціць малако з вадой і соллю, усыпаць, памешваючы, грысік, варыць 20 мінут, мяшаючы час ад часу. Звараны грысік разлажыць 2-сантыметравым пластом на міску, спаласнутую халоднай вадой, і пакінуць, каб застыў. Калі застыне, парэзаць на прадаўгаватыя аладкі, абсмажваць іх з абодвух бакоў, а, падаючы, пасыпаць цукровай пудрай.

### БАБКА З ЯБЛЫКАМІ

На 125 г грысіку ўзяць 125 г мукі, 250 г цукру, 6 яечак, паўлітра гарачага малака, 2 лыжкі каньяку ці рому, 3 вялікія вінныя яблыкі.

Яблыкі абабраць, выняць семечкі, парэзаць на скрылёчкі. Яечкі збіць з цукрам. У місцы змяшаць грысік з мукой і збітымі яечкамі, уліваючы пакрысе гарачае малако, каньяк, дадаць у канцы яблыкі. Вылажыць атрыманую масу ў форму, змазаную тлушчам і пасыпаную сцертай на тарцы сухой булкай. Пячы ў духоўцы каля паўтары гадзіны. Бабку можна падаваць як халодную, так і гарачую, пасыпаўшы цукровай пудрай.

**Гаспадыня**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я вучуся ў ліцэі. У гэтым годзе прыйшоў у нашу школу новы настаўнік. Яму, з выгляду, каля 30 год. Прыстойны, высокі і модна апранаецца. Я з нецярплівасцю чакаю, калі прыдзе ён да нас на ўрок. Ды фізіцы, бо ён гэты прадмет выкладае, я вучуся асабліва. Мне сорамна было б не адказаць на яго ўроку. Ён сімпатычны, часта ўсміхаецца і тады здаецца яшчэ прыгажэйшым. Усе дзяўчаты яго хваляць, але я, Сэрцайка, проста кахаю яго. Хацела б, каб і ён углядаўся на мяне, так як я на яго. Але ён адносіцца да мяне так, як да іншых. Я ведаю, што мае жонку і дзяцей, што за мяне шмат старэйшы, бо мне толькі 16 год, але я кахаю яго, нягледзячы на ўсё. Што будзе са мной, з маім каханнем?

Ірэнка з Б.

Ірэна! Нічога страшнага, пройдзе. Не адна ты кахаеш настаўніка. У школьным узросце гэта часта здараецца, але каханне гэта не трывалае. Ты кахаеш настаўніка, намнога старэйшага за цябе і сямейнага. Ты для яго толькі вучаніца, нічога больш. І тваё каханне можа пратрываць толькі да тае пары, пакуль не зацікавіцца табой іншы хлопец, якому ты спадабаешся і ён табе. І тады твае пачуцці пераллюцца на яго.

**Сэрцайка**



*Помнік Т. Касцюшку ў Драгічыне над Бугам. Гіпс. Праца народнага разбяра Люцыяна Баруты з Драгічына.*

*Фота М. Гайдука.*

## Падпалкоўнік А. Говараў

## ДВАЙНАЯ ГУЛЬНЯ

### Запіскі ваеннага контрразведчыка

Казімір выслухаў гэтыя словы з яўным задавальненнем, згодна ківаючы галавой, потым спытаў:

— Што плануе ваш камандуючы? Наша разведка заўважыла перасоўванне рускіх войск у гэтай мясцовасці і ў суседзяў. З тылу сюды перакінуты новыя дывізіі. Ці не плануецца наступленне?

Нікольскі безнадзейна кіўнуў рукой:

— Якое можа быць наступленне! Галоўная задача фронту — умацавацца, стварыць абарону, не дапусціць перасоўвання немцаў з поўдня ў Маскву. Папаўненне да нас прыбывае, але дывізіі фарміруюцца наспех, узброены і абучаны абы-як...

Казімір перапыніў:

— Поўныя даныя аб стане арміі і планах камандавання вы напішаце мне потым. А цяпер скажыце: ці можа быць у лістападзе-снежні наступленне рускіх? Ці ёсць якія-небудзь прыкметы падрыхтоўкі да наступлення?

Нікольскі цвёрда адказаў:

— Няма! Спробы адсунуць немцаў, адцягнуць іх сілы, вядома, могуць быць, але гаварыць аб якой-небудзь сур'ёзнай аперацыі смешна!

— Гэта праўда? — праціннаючы Нікольскага вачыма, спытаў Казімір.

— Ну, вядома! Я магу паказаць дакументы, — адказаў падпалкоўнік спакойна і ўпэўнена.

### СВЯТА НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ

Раніцай 19 лістапада 1942 года магутныя залпы савецкай артылерыі, якія пракаціліся па данскім стэпе, уздыбілі падмарожаную зямлю. На наступны дзень насустрач Данскому фронту пачаў наступленне Сталінградскі фронт. Вораг забегаў, як у пастцы.

У Фёклы Апанасаўны Нікольскі не быў амаль тыдзень. Яму цяпер трэба было рухацца разам з войскамі, і ён забег да яе на мінутку, каб развітацца і ўзяць свае рэчы.

— Адступаеце? — з трывогай спытала яна, гледзячы на падпалкоўніка з сумам і папрокам.

— Наступаем, Фёкла Апанасаўна! Наступаем. Прыйшло свята і на нашу вуліцу! — з радасцю адказаў Нікольскі і абняў яе за плечы.

— Ледзь не забыла, — сказала Фёкла Апанасаўна. — Твой франтавы сябар учора прыходзіў. Усё пытаў, дзе ты. Настырны чалавек.

„Шукае мяне“, — зразумеў Нікольскі. Не паспелі абмяняцца навінамі, як у хату ўвайшоў Казімір. Дыхае цяжка, шчокі бледныя, вочы прыжмураны.

Фёкла Апанасаўна ўважліва паглядзела на яго і пляснула ў далоні:

— Ды што ж гэта я паесці не збіраю? Зараз прынясу маласольных памідорчыкаў са склепа. — І выйшла з хаты.

— Як гэта магло здарыцца? Аб падрыхтоўцы такога наступлення вы не маглі не ведаць, — злосна спытаў Казімір.

Падпалкоўнік устаў. Змяіныя вочы ворага, яго бяссільная лютая злосць Нікольскага раптам развесялілі. Ён не мог утрымацца і за доўгі час упершыню гучна рассмяяўся.

Казімір сунуў руку ў кішэню, але не паспеў выхапіць пісталет. Ад страшэннага ўдару ў твар паляцеў да печкі і распластаўся там. У сенцах пачуўся голас Фёклы Апанасаўны — яна з кімсьці размаўляла. Нікольскі насцярожыўся, але дарэмна. У хату ўвайшлі капітан Мацвееў і яго супрацоўнікі.

Ішоў час. Нікольскі ўдзельнічаў у многіх бітвах, страчваў баявых сяброў, сам яшчэ тройчы трапляў у шпіталі, але раны зажывалі, і ён зноў станавіўся ў строй. Не загойвалася толькі адна: думкі аб жонцы і дзецях былі заўсёды пры ім, надзея знайсці, убачыць сям'ю не пакідала яго. Варта было яму дзе-небудзь убачыць дзяцей — і сэрца сціскалася ад болю. Нікольскі пісаў Мацвееву і Яніне, але адказу не было. Напісаў суседзям. Яны паведамілі, што Яніна захварэла і яе некуды адвезлі, а кватэру яны берагуць.

Летам 1944 года палкоўнік Нікольскі быў камандзіраваны ў Маскву. З поезда пайшоў адразу да сябе на кватэру. Нельга было не заўважыць, што сталіца змянілася — не стала „яжоў“ і паветраных загарод, вокны дамоў чыстыя, зніклі папяровыя палоскі на шыбах. Ля знаёмага дома сэрца забілася ад хвалявання. Не спяшаючыся, увайшоў у пад'езд і пачаў падымацца па лесвіцы. Стоп! Дзе гэта шумяць дзеці?! Спыніўся, прыслухаўся.

Зноў здаецца. „Гэтак можа з таго свету Казімір з'явіцца“, — падумаў ён і ўзышоў на сваю лесвічную пляцоўку.

Ключом, які захоўваў шмат гадоў, пачаў адмыкаць дзверы, але яны раптам расчыніліся: перад ім сталі Наташа і Воўка. Ад нечаканасці і здзіўлення яны мінуту маўчалі, потым дружна закрычалі:

— Мама! Наш тата прыехаў!

Імпартгумар

# Пяць дармаедаў

Толькі скончылася вайна. Мы ехалі на дрогкай растрэсенай машыне. Вакол было пуста, глуха, ціха. У вочы кідаліся закураныя руіны, але не было відаць людзей.

Яшчэ месяц назад тут доўгі час грымеў фронт, а цяпер было спакойна, нібы на мёртвым востраве.

Каля канала спыняемся наліць вады ў радыятар машыны. Не маючы чаго рабіць, мы з адным салдатам вырашылі пакупацца. Прыйшлі на невысокі бераг. Раптам з лазы выбег нейкі звярок і схаваўся ў высокай траве.

— Бадзяжны кот, — сказаў салдат і прыўзняў вінтоўку.

— Пачакай, у гэтым краі пакуль што ўсе бадзяюцца... Каты не гойсаюць пад вадой...

Мы падышлі бліжэй.

Звярок зноў выбег з травы і скокнуў у ваду. Яго прыкрывалі кусты лазы. Мы разгублена пазіралі і нічога не разумелі, а ў гэты момант чацвераногі звярок вылез з вады, трымаючы ў зубах рыбіну, і шмыгнуў у здзічэлую пшаніцу.

Цяпер і я не сумняваўся: гэта была пярэстая, схуднелая кошка. Я ўсё яшчэ не верыў сваім вачам.

— Пачакай, — сунімаў я цярплівага салдата, — пальнуць заўсёды паспееш. Яна ж не для сябе стараецца, ёй хапіла б і аднае рыбкі.

— Ну і дзівак ты, — засмяяўся ён. — Ці не думаеш ты, што кошка некаму пастаўляе рыбу?

Мы спынілі спрэчку. Гэтая здзічэлая кошка зноў забрыла ў ваду і пачала лапамі корпацца ў глеі, як быццам намервалася з яго нешта вылепіць. Як мага вышэй выцягваючы над вадой пыску, надзвычай асцярожна, то застываючы на месцы, то зноў крадком яна набліжалася да берага. Раптам яна нырнула, пасля дзвюма пярэднімі лапамі падняла на паверхню невялікага падлешчыка. Схапіла яго зубамі і, нават не абтрэсшы вады, зніклa ў той таямнічай пшаніцы.

Мы трохі прайшлі за ёй услед. У невялікай яміне, пад адарваным выбуховай хваляй крылом аўтамабіля, сядзелі пяцёра кацянят і грызлі толькі што злоўленую рыбіну. Усе яны былі тлусценькія, прыгожанькія, а іх стракатыя шкуркі блішчалі як памытыя. Яны ўжо не былі такія малыя, гэтыя кацяняты, і маглі б самі знаходзіць ежу... Не здолеўшы з'есці ўсю рыбіну, кацяняты пачалі гуляць, кідацца ёю, лавіць па ўсёй яме.

А тым часам прамоклая да апошняга валаска, згаладалая кошка ляжала побач і паволі ўмывалася, лізала запэцканыя глеем лапы, спрабавала прыгладзіць ускалмачаную шэрстку. Ваду яна, безумоўна, не любіла, і, відаць, прыгадваючы купанне, усё абтрэсвалася і церлася аб траву мокрымі лапамі. Толькі тады, калі яе кацяняты досыць набалаваліся, яна мяўкнула, падабрала рэшткі рыбіны і, прылёгшы, пачала прагна смактаць костачкі.

— Пойдзем, — сказаў салдат, — хай яны сабе... — І дадаў: — Гэтых дармаедаў я з задавальненнем адлупцаваў бы!

**Вітаўтас Пяткявічус**

*...для забівання рабочага часу.*

# НІЎКА



### ТАЙНА

Міколка:

— Тата, што такое тайна?

— Гэта... гэта, ну, такое слова, якое чалавек нават пад катаваннем не павінен гаварыць.

— Вось добра! Значыць, ты не раскажаш маме, што я разбіў слоік з варэннем!

### БАБКА ЕЎКА

Сядзіць бабуля каля тэлевізара і глядзіць футбол.

Убягае ўнук у хату і пытае:

— Бабуся, ну што, забілі?..

— Ды не ведаю, ці забілі, але шмат падалі.

З франтавога гумару

### ПЕРАХОД ІНІЦЫЯТЫВЫ

Гітлер: Ну як, генерал: ініцыятыва на фронце паранейшаму ў вашых руках?

Генерал: Не, шаноўны фюрэр, яна ў нашых нагах.

**...Вырыў яму для бліжняга, а той выкарыстаў яе пад фундамент для ўласнага помніка.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Палкоўнік экзаменуе маладога афіцэра:

— Ваш узвод акружаны з усіх бакоў. Які вы аддадзіце загад?

— На калені, хлопцы, маліцеся!

*

На дыпламатычны прыём у Вашынгтоне ўругвайскі ваенны аташэ з'явіўся ў мундзіры, на якім было поўна ордэнаў і медалёў.

— Напэўна, вам дорага давялося заплаціць за свае ўзнагароды? — спытала яго адна з запрошаных дам.

— Семдзесят пяць песо за ўсе, — адказаў генерал.

*

Лейтэнант правярае, як маладыя салдаты засвоілі тэму заняткаў.

— Што б вы зрабілі ў ваенны час, каб нашы чыгуначныя дарогі не даставіся праціўніку?

— Я б спаліў усе чыгуначныя білеты...



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Хрысціны Ігнацюк з Пухлоў і Алі Васілюк з Курашава змяшчаем песню*

## STRZELEC PODHALAŃSKI

Hej, prosiłże pieknie baca, bym owiec pilnował,
ale mnie się orle pióro najbardziej podoba.
Hej, podoba mi się pióro, ale z kapeluszem,
wezmę chleba, wezmę sera za strzelcami ruszę.

Ja nie pański, nie hetmański,
jeno harny, wolny strzelec podhalański!

Hej, zwabiła mnie dziewczyna na pachnące siano,
przy księżycu całowałem, lecz uciekłem rano.
Takie miała cudowności, że się w głowie miesza,
a przy wojsku mniej słodyczy, lecz robota lżejsza.

Ja nie pański...

Hej, kazali ojciec, matka sad i dom ogrodzić,
pól od szkody przypilnować i z kołatką chodzić.
Hej, karabin wezmę w ręce i odejdę z wojskiem,
sady, pola osłonimy a za jedno — Polskę!

Ja nie pański...

ГУМАР З

### НАВУЧЫЎ

Адзін салдат вельмі дрэнна страляў. А унтэр страляў яшчэ горш, але вырашыў навучыць салдата:

— Ах ты ж, недародак, я табе пакажу, як трэба цаляць!

Выстраліў раз. Не трапіў.

— Вось ты так страляеш!

Выстраліў другі раз. Не трапіў.

— Вось таварыш твой так страляе!

Выстраліў трэці раз. Зноў не трапіў.

— Вось яфрэйтар так страляе!

Нарэшце за чацвертым разам трапіў:

— Вось так ты і павінен страляць!

# КУРʼЁЗЫ

### ПЕРАМОГІ

Кацярына Крыён, 60-гадовая француженка, эксперт па пытаннях моды і касметыкі, піша на старонках парыжскай газеты „Пары жур": „Французянкі трацяць двойчы больш грошай на падтрыманне сваёй прыгажосці, чым армія — на сваё ўзбраенне. А тым часам, яны робяць значна больш заваёў".

### ПРЫЧЫНА ЗАХВОРВАННЯ

У адной марсельскай бальніцы на таблічках, што вісяць над ложкам кожнага хворага, пішацца не толькі прозвішча і дыягназ, а і прычына захворвання. Нядаўна на адной з такіх таблічак можна было прачытаць: "Генры Дзюваль, чатыры зламаныя рэбры, пацалунак за рулём пры хуткасці 100 кіламетраў на гадзіну".

### НЕ ПРАДБАЧАНАЕ ПРАГНОЗАМ

Англійскі метэаролаг Рэй Кампрэй прадбачыў для адной акругі дрэнную пагоду. Прагноз спраўдзіўся. Цяпер уладальнікі гасцініц у той акрузе дамагаюцца, каб Кампрэя звольнілі з пасады, бо ён распалохаў сваім прагнозам усіх курортнікаў і турыстаў.

### МУЖЫ

У адным з лонданскіх жаночых клубаў сабраліся на гутарку ўсе яго члены. Пад бурлівыя воплескі прысутных адна з аратарак заявіла: „Мужаў, якіх ніколі няма дома, лягчэй цярпець, чым тых, якія ўвесь час швэндаюцца па хаце".

**Як толькі ў цябе ворагаў стане больш, чым сябраў, памяняй іх месцамі.**